# БЮЛЕТЭНЬ

Рэспубліканскага Камітэту Прафэсыянальнага Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў Б. С. С. Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон.
Старшыні ЦП № 4-08.
Арг. сектар. № 4-08.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ДВА ТЫДНІ

№ 8 | 25-га кастрычніка 1931 году | № 8


## ЗЬМЕСТ



*Апросам.*

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб выніках правядзеньня „Дня індустрыялізацыі"

*Ад 1|XI-1931 г.*

Адзначыць, што пастанова Прэзыдыуму аб правядзеньні „Дня індустрыялізацыі" з боку большасьці рабачкомаў ня выканана (Сталіна, В. Фаніпаль, Вішнёўка, Банонь, Блонь, Халапенічы і інш.). Паасобныя рабачкомы заместа адпрацоўкі ў выхадны дзень, зрабілі адлічэньне з зарплаты (Лудчыцы і інш.) і некаторыя рабачкомы заместа скарыстаньня гэтых сродак на палепшаньне бытавых умоў рабочых перадалі гэтыя сродкі райпрафсаветам (Жылічы).

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу Пастанаўляе:

1) Абавязаць рабачкомы поўнасьцю выканаць пастанову Прэзыдыуму аб правядзеньні „Дня індустрыялізацыі", разгарнуўшы арганізацыйна-масавую работу. Заработаныя сродкі ў гэты дзень выдаткаваць выключна на палепшаньне культурна-бытавых умоў рабочых.

2) Катэгарычна забараніць рабачкомам замест адпрацоўкі ў выхадныя дні рабіць адлічэньні ад зарплаты.

3) Прапанаваць тым рабачкомам, якія перадалі сродкі райпрафсаветам сабраныя ў „Дзень індустрыялізацыі“, тэрмінова патрабаваць звароту іх ад райпрафсветаў.

Культмасаваму сэктару паставіць пытаньне перад ЦСПСБ аб дачы ўказаньня Райпрафсаветам аб звароце гэтых сродкаў рабачкомам для скарыстаньня іх па прызначэньні ў саўгасе.

4) Прапанаваць рабачкомам, якія ня прыслалі зьвестак, выслаць гэткія к 25/XI-г. г.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў „аб перавыбарах дэлегацкіх сходаў“.**

*Ад 1/XI 1931 г.*

Для поўнай рэалізацыі пастановы ЦК КП(б)Б аб правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі дэлегацкіх сходаў з 15/X па 15/XI-31г. Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Прапанавць усім рабачкомам зараз жа разгарнуць падрыхтоўчую і масавую работу да перавыбараў дэлегацкіх сходаў, папулярызуючы сярод рабочых і работніц палітычнае значаньне задач справаздачна-перавыборчай кампаніі.

2) Справаздачна-перавыборчая кампанія павінна прайсьці пад знакам мабілізацыі ўвагі працоўных жанчын вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва, на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну, на лепшую прапрацоўку кантрольных лічбаў 1932 года, на максымальнае ўцягненьне працоўных-жанчын у канкрэтныя формы сацспаборніцтва і ўдарніцтва, найбольшага ўдзелу гасразьлікавых брыгад, палепшаньня бытавых умоў і прыстасаваньня дзіцячых установ для лепшага абслугоўваньня работніц.

3) Рабачкомы павінны арганізаваць з рабочых, работніц і ударнікаў праверачныя брыгады для праверкі работы дэлегацкіх сходаў. Вынікі агляду і вылучаных кандыдатурах паставіць на абгаварэньне агульных сходаў.

4) Праверыць выкананьне дырэктыў партыі і саюзу па рабоце сярод жанчын, на пасяджэньнях рабачкому і агульных сходах паставіць справаздачы дэлегатак перад абіральнікамі аб іх рабоце ў складах рабачкомаў, сельсаветаў, каапэрацыйных органах, грамадзкіх арганізацыях і ў вытворчых нарадах.

5) У час спраўздачна-перавыборчай кампаніі дэлегацкіх сходаў, рабачкомы павінны падвесьці вынікі рэалізацыі пастановы Рэсп. К-ту аб вылучэньні жанчын на кіруючую гаспадарча-адміністрацыйную работу, падвышэньня кваліфікацыі жанчын, уцягненьня работніц у грамадзка-палітычнае жыцьцё саўгасаў і вылучэньня жанчын у ВНУ і саўгасвучы.

6) Прапанаваць усім членам Прэзыдыуму і інструктарам, выязджаючым для перавыборчай кампаніі рабачкомаў, забясьпечыць практычную дапамогу ў правядзеньні справаздана-перавыборчай кампаніі дэлегацкіх сходаў.

7) Прапанаваць рабачкомам вынікі правядзеньня справаздачна-перавыборчых сходаў прыслаць у Культсэктар Рэсп. К-ту саюзу к 17-му лістападу г. г.

*Апросам.*

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб выніках правядзеньня „2-х дэкадніка агляду радыё“.**

*Ад 1/XI-1931 года.*

Адзначыць, што 2-х дэкаднік агляду радыё праведзен не здавальняюча. Частка рабочых камітэтаў не даацаніла гэтай важнай палітычнай кампаніі і не мабілізавала грамадзкай думкі рабочых мас на максымальнае скарыстаньне радыё ў саўгасным будаўніцтве. Вынікам чаго існуе абязьлічка ў радыеабслугоўваньні рабочых мас, адсутнічаюць адказныя асобы за радыёустаноўкі і плянава-максымальнае скарыстаньне іх для калектыўнага слуханьня радыё-перадач, а таму існуе частая папсутасьць радыё-установак і

з боку рабачкомаў ня прымаюцца належныя захады да іх рамонту.

Выходзячы з вышэйадзначанага Прэзыдыум саюзу РЖС пастанаўляе:

1) Надаючы палітычнае значаньне радыёфікацыі і максымальнага скарыстаньня радыё ў саўгасным будаўніцтве, за аўладаньне радыё-тэхнікай рабочымі масамі саўгасаў і ператварэньня радыё вяшчэньня ў магутны сродак перабудовы прафработы, прапанаваць рабачкомам прыняць самы актыўны ўдзел ў наладжваньні радыё-абслугоўваньні рабочых мас саўгасу, разгарнуць масавую работу вакол максымальнага скарыстаньня радыё-установак, арганізацыі плянавага калектыўнага слуханьня радыё-перадач.

2) Арганізаваць ячэйкі „Т-ва прыхільнікаў радыё“ і аказаць ім практычную дапамогу у іх рабоце па максымальным абслугоўваньні радыё рабочых мас.

3) Прапанаваць рабачкомам прыняць меры да зьліквідаваньня абязьлічкі ў карыстаньні і даглядам за радыё-устаноўкамі, пабудаваць плянавасьць у радыё-абслугоўваньні рабочых. Мець штодзёную сувязь з Белрадыёцэнтрам і інш., дасылаючы ім дописы на тэму агульна-палітычнага жыцьця саўгасу.

4) Прапанаваць Культмасаваму сэктару узмацніць апэрацыйнае кіраўніцтва работай радыё-установак і дапамогу ў наладжэваньні іх работы.

5) Прапанаваць Культмасаваму сэктару распрацаваць канкрэтны плян радыёфікацыі саўгасаў на 1932 год, з праводкай трансляцый на кватэры рабочых.

6) Прапанаваць рабачкомам прыслаць к 30/XI-г. г. у Культсэктар падрабязны матар'ял аб становішчы радыёустановак і колькі з іх папсутых і якія патрэбны матар'ял для іх рамонту іпітаньня.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэсп. К—ту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб правядзеньні дэкады барацьбы з прагульшчыкамі ў жывёлагадоўчых саўгасах.**

*Ад 29/X—1931 г.*

Пад непасрэдным кіраўніцтвам камуністычнай партыі рабочая маса саўгасаў дасягнула вялізарных посьпехаў (разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва, ударныя брыгады, зьменна-сустрэчнае плянаваньне і г. д.). Рост жывёлагадоўчых саўгасаў і далейшыя пэрспэктывы разьвіцьця патрабуюць яшчэ больш ушчыльненага рабочага дня, разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва, узмацненьня працоўнай дысцыпліны і правядзеньня рашучай барацьбы з прагульшчыкамі.

Прэзыдыум саюзу РЖС **пастанаўляе:**

1) З 15/XI-г. г. па 25/XI-г. г. абвясьціць дэкаднік барацьбы з прагульшчыкамі і гультаямі ў жывелагадоўчых саўгасах.

2) Дэкаднік барацьбы з прагуламі павінен праводзіцца пры шырокім удзеле грамадзкасьці, перадавых рабочых--ўдарнікаў і асноўнымі задачамі дэкадніка павінна быць шырокая мабілізацыя рабочых мас на поўнае зьнішчэньне прагулаў, ліквідацыю маючыхся прарываў у пасобных галінах саўгаснага будаўніцтва.

3) У час правядзеньня дэкадніка рабочыя камітэты павінны разгарнуць масавасьць усіх культустаноў (клюбы, чырвоныя куткі, бібліатэкі), растлумачыць на зьлётах ударнікаў, рабочых сходах аб шкоднасьці прагулаў у сацыялістычным будаўніцтве, для гэтага ўзяць лічбы наяўнасьці прагулаў у саўгасе, прадэманстраваць гэтыя прагулы, як яны шкодзяць у пасьпяховым выкананьні промфінпляну.

4) Клюбы, чырвоныя куткі павінны быць забясьпечаны дыяграмамі выкананьня прамфінпляну, чырвонымі сьпісамі лепшых перадавых рабочых—ударнікаў, лёзунгамі, мабілізуючымі рабочую грамадзкасьць на ўзмацненьне тэмпаў у выкананьні прамфінпляну і лёзунгамі бічуючымі прагульшчыкаў, гультаёў, перашкаджаючых пасьпяховаму выкананьню прамфінпляну.

5) Насьцэнгазэты і шматтыражкі павінны ўключыцца ў правядзеньне дэкадніка барацьбы з прагульшчыкамі і гультаямі, шляхам асьвятленьня ў штодзённых газэтах ударнік „Сьвінагадоўлі і жывёлагадоўлі“ вытворчых задач саўгасу і становішча выкананьня прамфінпляну і працоўнай дысцыпліны, зьмешчаць на чырвонай дошцы перадавых рабочых-ударнікаў і на чорнай—усіх прагульшчыкаў і гультаёў.

6) Правесьці сход прагульшчыкаў сумесна з старымі рабочымі-ўдарнікамі, на якіх арганізаваць выступленьні ўдарнікаў аб тормазе выкананьня промфінпляну з-за прагулаў, выступленьні паасобных прагульшчыкаў аб прызнаньні імі шкоднасьці прагулаў і выклікам прагульшчыкаў на поўнае зьнішчэньне прагулаў.

7) Поўнасьцю скарстаць справаздачна-перавыбарчую кампанію рабачкомаў для узмацненьня працоўнай дысцыпліны і правядзеньня рашучай барацьбы з прагульшчыкамі і гультаямі.

8) Практыкаваць арганізацыю пакасальных вытворчых судоў над найбольш злоснымі прагульшчыкамі.

9) На ўсіх вучастках, цэхах і групах скласьці камісіі па выяўленьні прычын прагулаў па няўважлівых прычынах, вызначыўшы канкрэтныя мерапрыёмствы барацьбы з прагуламі і поўнае зьнішчэньне іх шляхам узмацненьня культмасавай работы, асабліва з новымі кадрамі рабочых, паляпшэньня сацыяльна-бытавых умоў рабочых.

10) Дэкаду барацьбы з прагульшчыкамі праводзіць пад знакам узмацненьня працоўнай дысцыпліны, разгортваньня сацспаборніцтва і ударніцтва, пад лёзунгам—сацыялістычнае будадніцтва патрабуе „ні воднага прагулу па неўважлівых прычынах."

11) Вынікі правядзеньня дэкадніка падагуліць на пасяджэньнях рабачкому і даслаць у Рэсп. К-т саюзу не пазьней 30/XI-г. г.

## ПРАГРАМА

**Правядзеньня дэкады барацьбы з прагуламі.**

1. Пры агульна-саўгаскіх вучастковых рабачкомах арганізуюцца камісіі па выяўленьні прычын прагулаў, наяўнасьці прагульшчыкаў, ліку недаработаных дзяржаве прагульшчыкамі чалавека-дзен і на якую суму.

2. Рабачкомамі, на аснове сабраных матэр'ялаў камісіяй склікаюцца зьлеты, цэхавыя і агульныя сходы прагульшчыкаў сумесна з старшымі рабочымі ударнікамі, з выступленьнямі рабочых-ударнікаў аб шкоднасьці прагулаў у сацыялістычным будаўніцтве.

3. Да самых злосных прагульшчыкаў дапасовуваць грамадзкае ўзьдзейнічаньне (таварыскія суды, прыпаднесьці прагульшчыку сьцяг з рагожы).

4. Рабочкомы па правядзеньні дэкады павінны прыслаць вынікі барацьбы з прагульшчыкамі з паказаньнем колькі на працягу году было прагулаў, колькі прагульшчыкаў з іх па няўважлівых прычынах, па роду—мужчын, жанчын. За лік каго гэтыя былі прагулы: сталых рабочых, новых рабочых і г. д.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Беларускага Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб выкліку Усеукраінскага Камітэту н/саюзу на сацыялістычнае спаборніцтва на лепшае правядзеньне перавыбарчай кампаніі нізавых саюзных органаў.**

*Ад 29/X—1931*

У мэтах найлепшага ажыцьцяўленьня задач, пастаўленых адозвай УсеЦСПС у справе павядзеньня справаздач на-перавыбарчай кампаніі нізавых прафсаюзных органаў, Прэзыдыум Рэсп. К-ту. саюзу РЖС. пастанаўляе:

1) Прыняць выклік Усеукраінскага Камітэту саюзу РЖС па сацыялістычным спаборніцтву на лепшае правядзеньне перавыбарчаай кампаніі нізавых профорганаў.

2) Прымаючы пад увагу узятыя абавязацельствы Ўсеукраінскім Камітэтам, Бел. Рэсп. К-т саюзу РЖС ставіць у аснову сваіх абавязкаў выкананьне сацыялістыннага догавару, заключанага 18/IX 31 г. паміж Заходне-Обласным і Бел. К-тамі (дагавор прыкладаецца) і дадаткова да яго бярэ наступныя абавязацельствы на час перавыбарнай кампаніі перад ВУКам саюзу.

1. Шырока прапрацаваць і давесьці не фармальна, а па сутнасьці адозву УсеЦСПС да кожнага рабочага і ІТР.

2. Забяспечыць яўку на справаздачныя і выбарчыя сходы і канфэрэнцыі

100% наяўнага складу членаў саюзу і ня менш 85% усіх работаючых у саўгасах

3. Уцягнуць у шэрагі ўдарных брыгад і індывідуальных ударнікаў ня менш 5000 рабочых і ІТР і ахапіць сацспаборніцтвам ня менш 60-65% усіх рабочых.

4. Уцягнуць у масавую работу самаправерачных брыгад 5500 6000 чалавек.

5. Уцягнуць у члены саюзу за час перавыбараў ня менш 5000 рабочых саўгасаў, служачых і ІТР.

6. Забясьпечыць дапамогу партячэйкам саўгасаў і за час перавыбарчай кампаніі перадаць у рады партыі лепшых рабочых ня менш 600 чал. і ў рады камсамолу 1000-1200 чалавек.

7. Дабіцца пераходу ня менш 80% рабочых саўгасу на прагрэсыўна- зьдельна-прыміяльную сыстэму аплаты працы.

8. Арганізаваць ня менш 400 гасразьлiковых брыгад.

9. У кожным саўгасе разгарнуць масвую работу па ўнядрэньні зьмена-сустрэчнага плянаваньня, арганізаваўшы плянава-вытворчыя групы,

10. Шляхам узмацнёнай рэалізацыі выпушчанай Рэсп. К-там. саюзу пазыкі „Тэхніка масам“, ахапіць за месяц тэхвучобай ня менш 7.500 чалавек.

11. Разгарнуць так масавую вытворчую работу, каб сабраць ня менш 5000 рабочых і рацыяналізатарскіх прапаноў

12 Поўнасьцю зьліквідаваць запазычанасьць па чл. узносах.

13. На 100% уцягнуць няпісьменных у лікпункты (4000 чалавек).

14. разгарнуць шырокую масавую работу па папулярызацыі і прафдруку і за месяц навярбаваць новых падпішчыкаў на газэту „Сельгасрабочы Бел.“ 7.000 экз., Маскоўскі „Сельгасрабочы“ 2.000 экз. і газэту „Труд„ 500 экз. і с/гчасопісаў 500 экз.

15. Шырока разгарнуць масавую садружаскую работу з Чырвонай Арміяй дабіцца арганізацыі ў кожным саўгасе вайскова-стралковых гурткоў, закончыць збор сродкаў (35.000 руб.) у фонд матарызацыі пагранвойск на пабудову танка імя саюзу рабочых жывёлагадоўчых с/г.

16 Падпарадкаваць усе формы і мэтады культурна-масавай работы (клюб, чырвоны куток, насьценгазэта, інтэрнаты і г. д.) задачам лепшага правядзеньня перавыбарчай кампаніі і склікаць 3 куставых зьлёты рабселькораў саўгасаў.

17. Зараз жа пасьля перавыбараў арганізаваць каротка-тэрміновыя курсы (2-х тыднёвыя) па перападрыхтоўцы ня менш 100 старшынь агульнасаўгаскіх і цэхавых камітэтаў.

18. Аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі па пяцідзёнкам інфармаваць ЦК саюзу.

Арбітрам абраць: ЦК саюзу газэты, „Сельгасрабочы Бел.“ і „Сельскохазяйственный рабочий“.

Дагавор падпісаць без выезду ў Харкаў, шляхам пасылкі яго сьпешнай поштай ВУКу саюзу.

Тэрмін паверкі ўстанавіць 15-га сьнежня 1931 г. шляхам узмацнёнага выезду брыгад.

## ПЫТАНЬНІ

### на якія неабходна інфармаваць саюз аб выкананьні сацдагавору.

1. Дзе і як прапрацоўвалася адозва ЎсеЦСПС-на групе рабочых, цэху, брыгадзе. Колькі прысутнічала рабочых.

2. Колькі прысутнічала на выбарчых сходах чл. саюзу . . . . , ня членаў саюзу работаючых у саўгасе . . . чал.

3. Наколькі быў рост за час перавыбарчай кампаніі ўдарніцтва. Было ударнікаў да перавыбараў . . . чал., маецца цяпер . . . . чал. Мелася ударных брыгад, . . . . , з колькасьці рабочых . . . . маецца цяпер . . . брыгад, з колькасьцю . . . . чалавек.

4. Было створана самаправерачных брыгад для праверкі работы РК . . . з колькасьцю удзельнікаў . . . . чал.

5. Аоплена за час перавыбараў саюзным членствам – было . . . . . чл. саюзу, маецца цяпер . . . . чалавек.

6. Колькі перадана рабочых-ударнікаў у рады партыі КСМ . . . . чал.

7. Колькі за час перавыбараў арганізавана гасразьлікавых брыгад . . і дзе

8. Ці заключалася сацумова з рабчкомам другога саўгасу на сацспаборніцтва па лепшым правядзеньні перавыбарчай кампаніі.

9. Колькі за час перавыбараў афармлена і падпісалася на пазыку „3-ці рашаючы“, штатных . . . чал. на . . руб. сэзонных . . . чал. на . . . руб., будаўнічых . . . . чал. на руб. . . . .

10. Колькі ўцягнута ў гурткі па аўладаньні тэхнікай—існуе гурткоу . . . імі ахоплена . . . . чал. мужчын . . . чал. жанчын . . . . чал.

11. Як зьліквідавана запзычнасьць па чл. узносах, было запзычанасьці да перавыбараў на суму . . . . . . руб. зьліквідавана . . . . . . руб.

# ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Бел. Рэсп. К-ту Саюзу РЖС "Аб камплектаваньні саўгасаў Белсельтрэсту буйнай рагатай жывёлай".**

*Ад 23/X—1931 г.*

Заслухаўшы даклад БСТрэсту аб ходзе камплектаваньня саўгасаў БСТ буйнай рагатай жывёлай, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў адзначае:

1) Ня гледзячы на дырэктывы аб скончэньні камплектаваньня на працягу першых трох кварталаў, гадавы плян камплектаваньня (сумесна з заданьнем па асобным кварталу) выкананы толькі на 67%.

2) Пры поўным выкананьні і перавыкананьні плянаў саўгасамі Вялікія—Навасёлкі, Новы—Двор, Вузьдзянка, Пятроліна, Саколка, Жылічы, Дзедлава, Дарашэвічы, Лучыцы, Дуброва, Забычаньне, Уваравічы, Брылёў, Пескі і Стрэлічава, цэлы шэраг дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў апартуністычна не дацанілі справы камплектаваньня, не арганізавалі практычную работу па прыёмцы жывёлы ад адзяленьняў Белмяса, пусьцілі гэтую справу на самацёк, выкананьне пляну камплектаваньня прахадзіла ганебна маруднымі тэмпамі і ў выніку чаго плян камплектаваньня па гэтых саўгасах фактычна сарваны (па с/г Самуэлева плян выкананы на 10,7%, Русінавічы 16%, Весялова 18,2%, Наталеўск 30%, Грудзінаўка 21,5%, Дашкаўка 38% Падбярэзьзе 22%, Астрагляды 27%, Рачкавічы 33%, Вымна 22,6% Высокае 26,7% і г. д).

3) Рабочыя камітэты ў большасьці саўгасаў не дацанілі справы фарміраваньня стада, не мабілізавалі рабочыя масы і, ў першаю чаргу, ударнікаў, на барацьбу за своечасовае выкананьне плянаў камплектаваньня і за захаваньне маладняка ад падзежа.

4) Загатоўчыя арганізацыі на мясцох справе камплектаваньня жывёлай саўгасаў БСТрэсту не ўдзялілі належнай увагі, у выніку чаго шэраг саўгасаў укамплектаваліся недобраякаснай жывёлай і несваечасова.

На падставе адзначанага Прэзыдыум ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Даручыць Белсаўгас-трэсту т. Самохіну за пасьпяховае правядзеньне працы па камплектаваньні, за захаваньне маладняка прэміраваць дырэктараў саўгасаў Брылёў т. Ешчына і Стрэлічава т. Кучаравэга і старшынь рабачкомаў гэтых саўгасаў т. т. Цыгнкова і Радзівонава, у разьмеры масячнага акладу кожнага. Адначасова выдзеліць па 350 р. гэтым саўгасам для прэміраваньня лепшых ударнікаў.

2) Даручыць дырэкцыі БСТ прыцягнуць да судовай адказнасьці вінаватых асоб у зрыве камплектаваньня і дрэнную арганізацыю справы вырасьліваньня маладняка па саўгасах: Косіна, Раванічы, Доўгалесьсе, Грудзінаўка, Падбярэзьзе, Вымна, Весялова і др.

3) За зрыў камплектаваньня і дрэнную арганізацыю працы на скотным двары, прывёўшую да пагібелі маладняка і зьніжэньня ўдою, абавязьціць вымову старшыням рабачкомаў саўгасаў: Раванічы, Доўгалесьсе, Русінавічы, Веснава, Грудзінаўка, Дашкаўка, Падбярэзьзе Астрагляды, Рачкавічы, Вымна, Высокае, Наталеўск.

4) Прапанаваць дырэктарам саўгасаў і рабочым камітэтам скончыць камплектаваньне стада да 10/XI-31 г., забясьпечаўшы бесьперапынную прыёмку яе ад загатоўчых арганізацый.

5) Прасіць НКСнаб аб дачы рашучых указаньняў загатоўчым арганізацыям аб фасіраванай перадачы жывёлы і ў першаю чаргу саўгасам, вылучаючы найбольш прадукцыйную жывёлу.

6) Улічаваючы, што далейшае фарміраваньне стада павінна пераважна праходзіць за лік вырасьліваемага маладняка, прапанаваць БСТ і саўгасам дабіцца максымальнага зьніжэньня ялавасьці, нармовага расьцёлу і поўнага зьніжэньня падежу маладняка.

7) Прапанаваць дырэктарам і рабачкомам саўгасаў, перавесьці ўсю працу на скотных дварох з 10-га лістпада на зьдзельна-прагрэсыўна-прэміяльную сыстэму аплаты працы, вылучыўшы з агульнасаўгаскага прэміяльнага фонду, спэцыяльны фонд для прэміраваньня работнікаў скотнага двара.

8) Папярэдзіць дырэктараў і рабочыя камітэты саўгасаў, што ацэнка іх будзе праводзіцца ў поўнай адпаведнасьці з выкананьнем пляну разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Бел. Рэсп. К-ту Саюзу РЖС „Аб камплектаваньні стада саўгасаў „Свінавод".

*Ад 23/X 1931 году*

Заслухаўшы даклад Сьвінаводтрэсту аб камплектаваньні стада, Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае, што:

1) Ня гледзячы на пастанову партыі і ўраду аб выкананьні пляну па камплектаваньні матачнага стада да 1-га кастрычніка, толькі саўгасы, Веснава, Банонь, Варонічы, Паўлаўка, Демніца, Бабінічы, Лудчыцы, Усьце, Крывое, Калініна, Самацэвічы, Брацкавічы, Разальмова, Канічы, Прывольле, Халапенічы, Варашылава, Красьніца выканалі гэту пастанову к паказанаму тэрміну па матачнаму стаду на 100 і больш працантаў. У цэлым жа па трэсту плян камплектаваньня матачнага стада выкананы ўсяго на 70% і толькі 41% ад пляну па агульнаму стаду, што лічыць далёка нездавальняючы.

2) Яўна катастрафічнае становішча з камплектаваньнем стада маецца па саўгасах: Вялень—Сінча, Зара-Захаду, Вішнёўка, Сталіна, Горкі—Апчак, Воркі—Бялевічы, Бацэвічы, Прагрэс, Сялецк, Чэрыкаў, Крычаў, Шыкатавічы, якія выканалі плян прыёму да 30% і дапусьцілі да 60% падзеж маладняку. Кіраўніцтва гэтых саўгасаў яўна апартуністічна плянецца ў хвасьце фарміраваньня матачнага стада, застаўляючы рабскія тэмпы прыёмкі сьвінаматак ад загатоўчых арганізацый, ігнаруючы устаноўлены парадак прыёму, гарантуючы мінімальныя straты эпізоціі. Дырэктары і рабочыя камітэты гэтых саўгасаў не паставілі у цэнтр увагі сваёй працы барацьбу за выкананьне пляну па камплектаваньні матачнага стада, захаваньне маладняку і належнага правядзеньня злучнай кампаніі.

3) Загатоўчыя арганізацыі на мясцох не ўдзяляюць належнай увагі камплектаваньню стада саўгасаў добраякасным па галоўем, тэмпы сьвіназагатовак нездавальняючыя, наглядаўся шэраг выпадкаў месьніцкага падыходу да справы камплектаваньня саўгасаў, перадача сьвінаматак у першую чаргу калгасам свайго раёну, забой сьвіней годных на камплектаваньне і г. д.

Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Даручыць Белканторы „Сьвінавод" т. Аўчыньнікаву за пасьпяхова праведзеныя работы па камплектаваньні матачнага стада і посьпехі ў захаваньні маладняку, шырокае ўнядрэньне зьдзельна-прэміяльнай сыстэмы аплаты працы, прэміраваць дырэктара саўгасу Вусьце т. Шандалесава, зоотэхніка Засмановіча і старшыню рабачкома т. Ціханскага звыдачай месячнай пэнсіі кожнаму, адначасова выдзеліць 500 руб. для прэміраваньня лепшых ударнікаў.

2. Прапанаваць Упаўнаважанаму Сьвінаводтрэсту прыцягнуць да суровай адказнасьці асоб вінаватых у зрыве камплектаваньня саўгасаў па матачнаму і агульнаму стаду і за вялікі адыход маладняка па саўгасах: Сталіна, Крычаў, Чэрыкаў, Горкі-Апчак і Вызваленьне.

3. Рабачкомам саўгасаў Сталіна, Горкі-Апчак, Сялецк, Прагрэс, Бацэвічы, Вя-

лень, Чэрыкаў і Вызваленьня, абвясціць вымову, за слабы тэмп камплектаваньня матачнага стада і вялікі адыход маладняку

4. Прапанаваць усім рабочым камітэтам, дырэктарам саўгасаў Сьвінаводу і нарыхтоўчым арганізацыям закончыць камплектаваньне сьвінаматачнага стада па 1/XI-31 г. Рашуча фарсіраваць прыёмку сьвіней ад загатоўчых арганізацый выконваючы загад асоба упаўнаважанага па барацьбе з эпізоціяй т. Рачыцкага аб парадку прыёму сьвіней, распрацаваўшы загад на вытворчых нарадах сьвінагадоўчага цэху.

5. Прасіць Наркамснаб БССР даць дырэктыву загатоўчым арганізацыям аб фарсіраваньні загатоўкі сьвіней.

6. Прасіць саюз Харчавікоў устанавіць поўны кантроль за правядзеньнем у жыцьцё пастановы ўраду аб забароне забою жывёлы годнай для камплектаваньня стада і забясьпечыць першачарговае ўкамплектаваньне саўгасаў Сьвінаводу сьвіньнямі лепшай якасьці.

7. Лічачы правядзеньне вытворчых мерапрыёмстваў па сьвінагадоўлі (злучной кампаніі, апаросаў, вырашчваньне маладняку) ня менш важнымі, чым правядзеньне пасеўнай ўборачнай кампаніі, прапанаваць рабчкомам саўгасаў Сьвінаводу ўстанавіць жорсткі кантроль за ходам злучной кампаніі, мабілізаваўшы рабочыя калектывы на выкананьне і перавыкананьне памесячных плянаў пакрыцьця сьвінаматак, на барацьбу супроць прагулаў мясных станкоў, за якасныя паказчыкі гэтай работы (заотэхнічны падбор, правільнае скарыстаньне хракоў і інш.)

8. Рашуча перабудаваць усю работу дырэкцыі, ІТР і рабачкомаў саўгасаў па барацьбе за захаваньне маладняку і належнага правядзеньня асеньне-зімовай апароснай кампаніі, шляхам ударнай падрыхтоўкі зімоўкі стада, палепшаньня дагляду харчаваньня жывёлы і захаваньне чыстаты ў сьвінарніках і сьвінагадоўчых гарадках.

9. Прапанаваць дырэктарам саўгасаў і рабачкомам устанавіць спэцыяльныя преміі сьвінарам, за перавыкананьне пляnaў па злучной кампаніі і за лепшае захаваньне маладняка.

10. Прапанаваць Белканторы Сьвінавод і нарыхтоўчым арганізацыям зьмяніць існуючую цэнтралізаваную сыстэму разрахункаў, устанавіўшы яе непасрэдна саўгасамі і першаістай нарыхтоўчай арганізацыяй у раёнах.

11. рашуча папярэдзіць дырэктараў, ІТР і ўсе рабочыя камітэты аб неабходнасьці да 1/XI-г.г. поўнага ўвядзеньня зьдзельна-преміяльнай аплаты працы па сьвінагадоўчых цэхах, як галоўнага сродку па павышэньню колькасных і якасных паказчыкаў працы.

Ацэнка дырэктараў, рабочых камітэтаў будзе праводзіцца ў поўнай адпаведнасьці за выкананьне плянаў разьвіцьця сацыялістычнай жывёлагадоўлі

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў па дакладу Белсельбуду і Сьвінаводу "аб ходзе будаўніцтва і увядзеньні зьдзельна-прагрэсыўнай аплаты".**

*Ад 23/X-1931 г.*

1) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае, што па становішчы на 1/X-г.г. выкананьне пляну вытворчага будаўніцтва ў сьвінаводчых саўгасах знаходзіцца ў наступным выглядзе:

а) Скончана будаўніцтвам сьвінарнікаў-матачнікаў 44%, знаходзіцца ў рабоце звыш 50% матачнікаў, -41%, не распачата будаўніцтва матачнікаў 15%.

б) Па халастых матках — скончана будаўніцтва матачнікаў 50%, знаходзіцца ў рабоце звыш 50% - 40%, не распачата будаўніцтва матачнікаў 10%.

в) Па адкормачніках — окончана будаўніцтва адкормачнікаў 20%, знаходзіцца ў рабоце звыш 50% —52%, не распачата адкормачнікаў 28%.

2) Прэзыдыум канстатуе, што паказаны процант выкананьня работ зьяўляецца нездавальняючым, будаўніцтва не атрымала адпаведных тэмпаў у справе выкананьня дырэктывы партыі і ўраду аб заканчэньні паказанага будаўніцтва да 15-га лістапада. Вынікам слабых тэмпам Прэзыдыум лічыць:

а) Нетранспартыроўка будматар'ялаў саўгасамі, галоўным чынам лесаматар'ялаў і саломы для стрэх.

б) Адсутнасьць адпаведнай арганізацыі працы ў справе пераводу на зьдзельна—прагрэсыўную аплату працы

в) Адсутнасьць работы сярод будаўнікоў па барацьбе за якасьць будаўніцтва і зьніжэньне сабекаштоўнасьці.

г) Нездавальняюча арганізавана сацыялістычнае спаборніцтва і ахоп будаўнікоў ударніцтвам, асабліва слабым месцам зьяўляецца перавод будаўнічых работ на рэйкі вышэйшых форм сацспаборніцтва (гаспадарча-разьліковыя брыгады, зьменна-сустрэчнае плянаваньне), замест гэтага маюцца выпадкі рвацтва з боку паасобных будаўнікоў.

д) Дрэннае забесьпячэньне рабочых будаўнікоў і ІТР прамтаварамі і прадуктамі спажываньня, якое ў асеньні перыяд значна пагоршылася, слаба арганізаванае грамадзкае харчаваньне і іншыя бытавыя ўмовы, гэтым самым ствараецца цякучасьць, што яшчэ больш пагаршае маючыйся недахоп у рабочай сіле.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум Рэсп К-ту саюзу РЖС ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1) Катэгарычна прапанаваць дырэктарам і рабачкомам саўгасаў ужыць усе неабходныя захады для забесьпячэньня выкананьня пастановы партыі і ўраду аб заканчэньні вытворчага будаўніцтва да 15-га лістапада, для чаго не пазьней 5-га лістапада дабіцца поўнай патрэбнай вывозкі лесаматар'ялаў і нарыхтоўкі саломы для будаўніцтва, адначасова будвучасткам даць на падставе гэтага точную спэцыфікацыю гэтых матар'ялаў, гэтая работа павіннаісьці пад кутком погляду штодзённага вылучэньня саўгасамі сталай неабходнай колькасьці цягавай сілы, зьвярнуўшы увагу на поўную нагрузку ў дзьве зьмены расьпіловачных установак. пастаноўкай перад адпаведнымі раённымі арганізацыямі і сельсаветамі, аб арганізацыі забясьпечваючай дапамогі саўгасам у пытаньнях гужтранспарту.



2) Улічваючы, што ў паасобных саўгасах дырэктарамі і старшынямі рабачкомаў не зварочваецца адпаведная ўвага на заканчэньне ўнутранага абсталяваньня — Прэзыдыум Рэсп. К-ту лічыць, што ўвесь працэс абсталяваньня і бягучы рамонт эксплёатуемых будынкаў для жывёлагадоўлі — як зданых па акту, а таксама і эксплёатуемых бяз здачы на зімовы час, павінен быць скончаны да 5-га лістапада.

3) Улічваючы, што паасобныя гаспадарчыя арганізацыі ня выконваюць нарадаў на шкло і іншыя фандыруемыя будаўнічыя матар'ялы, пастаіць пытаньне перад ЦК саюзу аб прыняцьці адпаведных мер перад ЦК саюзам па выкананьні ў тэрміны нарадаў для саўгасаў Сьвінаводу БССР.

Плянава-Вытворчаму сэктару сумесна з Белсельбудам і Белканторай „Сьвінавод“ на падставе матар'ялаў па невыкананьні асобнымі гаспадарчымі арганізацыямі нарадаў — скласьці дакладную запіску ЦК саюзу.

4) Давесьці да ведама ЦСПСБ, што пасобныя райпрафсаветы зусім слаба удзельнічаюць у справе вытворчага будаўніцтва саўгасаў. Адначасова прасіць ЦСПСБ, даць паказаньне райпрафсаветам у бліжэйшы дэкадны тэрмін заслухаць даклады начальнікаў будвучасткаў, дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў, аб ходзе выкананьня будаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах.

5) Прэзыдыум лічыць у бліжэйшы час у пытаньнях арганізацыі працы сярод будаўнікоў правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) Да 5/XI г.г. абгаварыць апушчаную інструкцыю аб зьдзельнапрэміяльна прагрэсыўнай аплаце з разьлікам, каб прагрэсыўкай былі ахоплены ўсе будуемыя вытворчыя будынкі.

б) Плянава-Вытворчаму сэктару сумесна з Белсельбудам да 1/XI-г.г. апусьціць ува ўсе сьвінаводчыя саўгасы інструкцыю па пераводу на гаспадарча-разьлікавыя брыгады і пераходу на вышэйшыя формы сацспаборніцтва зьменна-сустрэчнае плянованьне і прадставіць на зацьверджаньне Прэзыдыуму Рэсп. К-ту.

в) Рабачкомам саўгасаў больш рашуча разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і ахоп ударніцтвам, забясьпечыўшы ў гэтай рабоце сыстэматычны вучот і праверку, а таксама арганізуючы прэміяваньне лепшых ударных брыгад і ўдарнікаў-будаўнікоў.

г) У адпаведнасьці з пытаньнямі пастаноўкі арганізацыі працы сярод будаўнікоў, Прэзыдыум Рэсп.К-ту завострывае ўвагу кіраўніцтва трэстаў, будвучасткаў, дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў на забесьпячэньне мабілізацыі ўвагі будаўнікоў вакол якасьці самаго будаўніцтва і зьніжэньня яго сабекошту.

6) Лічыць неабходным на чарговым пасяджэньні Прэзыдыуму заслухаць даклады начальнікаў будвучасткаў: Касьцюковіцкага, Клімавіцкага Чэрвеньскага і Пухавіцкага раёнаў.

7) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС катэгорычна патрабуе ад дырэктараў і рабачкомаў саўгасаў ужыць усе патрэбныя захады па палепшаньні сацыяльна-бытавых умоў будаўнікоў і ІТР на будаўніцтве, увага ў гэтым павінна быць накіравана на каранное палепшаньне грамадзкага харчаваньня, на пастаноўку пытаньня перад адпаведнымі раённымі арганізацыямі аб выкананьні каапэрацыяй норм забесьпячэньня будаўнікоў вызначаных Наркомснабам, побач з гэтым дабіваючыся рэалізацыі пастановы ЦВК і СНК СССР аб палепшаньні сацыяльна-бытавых умоў ІТР—будаўнікоў.

8) Прэзыдыум Рэсп. К-ту яшчэ раз зварочвае ўвагу трэстаў і дырэктараў саўгасаў на большае праяўленьне ініцыятывы па скарыстаньні ўсіх мясцовых будаўнічых рэсурсаў, гэтым самым забясьпечваючы хутчэйшае выкананьне пляну будаўніцтва.

## ПАСТАНОВА

**Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў аб канкрэтных мерапрыёмствах па электрафікацыі і мэханізацыі ў вытворчых працэсах жывёлагадоўчых саўгасаў.**

*Ад 29/X-1931 году.*

Заслухаўшы даклад Наркамзему і Інстытуту Мэханізацыі, Прэзыдыум Рэспубліканскага Камітэту саюзу РЖС адзначае:

1) Вопыт мэханізацыі працэсаў жывёлагадоўлі, праведзены ў асобных гаспадарках (імя Крупскай—ДПУ, Сьляпянка і інш.) паказаў вялікую эфэкцыйнасьць у падняцьці вытворчасьці гэтых гаспадарак, лепшага скарыстаньня працоўнай сілы і г. д., аднак масавае ўнядрэньне мэханізацыі працэсаў с/г вытворчасьці, ня глядзечы на іх актуальнейшае значаньне, асабліва для разьвіцьця сацыялістычнай жывелагадоўлі, не знайшлі свайго практычнага ажыцьцяўленьня ў буйных жывёлагадоўчых гаспадарках.

2) У электрафікаваных саўгасах карыстаньне электраэнэргіі для с/г вытворчасьці надзвычайна слаба і зачастую яўмелае. Адсутнічае комплекснае скарыстаньне машын, у выніку чаго да асобных працэсаў электраэнэргія зусім не падведзена.

3) Значная работа праробленая Беларускім Філіалам Усесаюзнага Інстытуту Мэханізацыі па распрацоўцы і выпрацоўцы цэлага шэрагу пытаньняў мэханізацыі (падвесная дарога, скрэпкі, трохкалейная ваганетка, абсталяваньне кухняў для сьвіней і г. д.) дзякуючы бязьдзейнасьці Саўгастрэсту да гэтага часу не рэалізаваны.

Выходзячы з гэтага Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу пастанаўляе:

1) Абавязаць Белсаўгастрэст і Белкантору „Сьвінавод“ у 1932 г. правесьці абсталяваньне скотных двароў больш буйных саўгасаў мэханізаванымі кармовымі адзяленьнямі, забясьпечыўшы комплекснае скарыстаньне машын.

2) Правесьці абсталяваньне скотных двароў падвеснай дарогай у наступных саўгасах:

**Па Сьвінаводу**—1) Вялень-Сінча, 2) Вішнёўка, 3) Першага Мая, 4) Сталіна 5) Луцаўшчына, 6) Несята, 7) Насовічы' 8) Жэлязьнякі, 9) Вейна, 10) Ялава' 11) Гарадок, 12) Дзедлава, 13) Цяцерына'

14) Самацэвічы, 15) Сялецк, 16) Чэрыкаў, 17) Крычаў, 18) Мсьціслаўль, 19) Хальч, 20) Барацьбіт, 21) Дрыбін, 22) Зара Захаду, 23) Негарэлае, 24) Шыкатавічы, 25) Каменка, 26) Івань, 27) Боркі-Бялевічы.

**Па Белсаўгастрэсту:** 1) Калініна, 2) Русінавічы, 3) Самуэлева, 4) Тарасава, 5) Каралева, 6) Вязынь - Фаніпаль, 7) Смалявічы, 8) Весялова, 9) Завалочыцы, 10) Жылічы, 11) Буйчічы, 12) Беліца, 13) Станіслававa, 14) Уваравічы, 15) Даўгалесьсе, 16) Крынкі, 17) Дурынічы, 18) Пагост, 19) Рачкавічы, 20) Рудакова, 21) Забалоцьце, 22) Межава, 23) Высокае, 24) Копысь.

Абавязаць дырэктараў і рабачкомаў паказаных саўгасаў на фарсіраваньне скарыстаньня электраэнэргіі, шляхам большай мэханізацыі работ па нарыхтоўцы кармоў, вадазабясьпячэньне, чысткі жывёлы (электрычныя шчоткі, адкачка жыжы . г. д.). Гэтым самым абавязаць дырэктараў і рабачкомаў тых саўгасаў, якія ўжо электрафікаваны.

Побач з гэтым абавязаць рабачкомы для падрыхтоўкі электракадраў, аўладаньне электра-тэхнікай і мабілізацыі грамадзкасьці саўгасаў, стварэньне ячэяк, брыгад садзейнічаньня электрафікацыі і мэханізацыі.

4) Адзначаючы на маючыяся выпадкі ў новым будаўніцтве неўвязкі прaектаў з далейшай электрафікацыяй і мэханізацыяй, Прэзыдыум даручае трэстам. кіраўніцтву саўгасаў—удасканаліць гэтую справу, адначасова для гэтага лічыць мэтазгодным арганізаваць пры Белсаўгастрэсьце і Сьвінаводзе бюро мэханізацыі.

5) Для хутчэйшага фарсіраваньня мэханізацыі скотных двароў падвеснай дарогай, прасіць т. ГРЫСЭВІЧА—ВСНГ аб аказаньні садзейнічаньня перад адпаведнымі арганізацыямі на забесьпячэньне гэтай мэханізацыі вуглавым жалезам разьмерам 25×25×4 т/т.

6) У сувязі з тым, што інжынэрам Ін-ту Мэханізацыі т. ЗАХАРЭНКА напісана каштоўная брашура па абсталяваньні скотных двароў ў саўгасах і калгасах падвесных дарог, прасіць с/г сэктар Белдзяржвыдавецтва аб хутчэйшым яе выданьні.

7) Даручыць ЦБ ІТС на працягу бліжэйшага часу сумесна з НКЗБ, Ін-там Мэханізацыі прапрацаваць пытаньне аб далейшай мэханізацыі паасобных працэсаў работ, распрацаваўшы цэлы шэраг практычных мерапрыемстваў.

8) Рабачкомам і дырэктарам саўгасаў разгарнуць шырокую масавую растлумачальную работу наваколь ўнядрэньня электрафікацыі і мэханізацыі ў вытворчыя працэсы работы жывёлагадоўчых саўгасаў.

## ПАСТАНОВА

**Рэспубліканскага Камітэту Саюзу жывёлагадоўчых саўгасаў аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі рабачкому саўгасаў, мясцовых бюро ІТС і студкомаў**

*ад 10 /XI 31 г.*

Заслухаўшы даклады аргінструктарскага сэктару і рабачкомаў саўгасаў імя Сталіна, Райцы і Боркі-Бялевічы, Прызыдыум Рэспубліканскага камітэту саюзу РЖС азначае:

1. Разгортваньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі з боку большасьці рабачкомаў саўгасаў прызнаць нездавальняючым (саўгас Уваравічы, Даўгалесьсе, Насовічы, Пракопаўка, Івань, Бранчыцы, Некрашы і г. д.). Папярэднія весткі гавораць аб тым, што рабачкомы недастаткова ўключыліся ў гэту важную кампанію і не паставілі яе на належную палітычную вышыню. Незабесьпечана поўная мабілізацыя шырокіх мас рабочых і ІТР на рэалізацыю адозвы УсеЦСПС, 6 умоў тав. Сталіна, на перабудову прафсаюзнай работы на выкананьне і перавыкананьне промфінплянаў і далейшае паляпшэньне сацыяльна-бытавых умоў рабочых і ІТР.

Толькі некаторыя рабачкомы саўгасаў (Вязынь-Фаніпаль, Банонь, Васільеўск, Перамога Сацыялізму) зразумелі палітычнае значэньне правадзімай справаздачна-перавыбарчай кампаніі і на працягу гэтага тэрміну дзякуючы разгортваньню масавай работы, яны ўжо дасягнулі адпаведных посьпехаў.

2. Праяўляецца недапушчальнае імкненьне рабачкомаў саўгасаў скараціць устаноўленыя тэрміны справаздачна-перавыбарчай кампаніі, яны сьпяшаюцца выбары правесьці фармальна-бюракратычным парадкам, бяз шырокага разгортваньня масавай і самаправерачнай работы чым па сутнасьці праяўляюць правы апартунізм на практыцы і выхалашчваецца значэньне пастаўленых у адозве УсеЦСПС задач. Да ліку такіх прафарганізацый адносяцца рабачкомы саўгасаў: Івань, Некрашы, Бранчыцы, Боркі-Бялевічы, Старчыцы, Рачкавічы, Рыме і інш., якія бяз усялякай падрыхтоўчай работы ўжо закончылі перавыбары рабачкомаў.

3. Абсалютна нездавальняюча разгортваецца работа па правядзеньні справаздачна-перавыбарчай кампаніі мясцовых ІТР і студкомаў і па ўдзеле спэцыялістаў у перавыбарах рабачкомаў саўгасаў.

4. Культурна-масавая работа саўгасных клюбаў, чырвоных куткоў, насьценгазэты і г. д. рабачкомамі не перабудавана яшчэ на мабілізацыю шырокіх мас на пасьпяховае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

5. Справаздачна-перавыбарчая кампанія надзвычайна дрэнна выкарыстоўваецца на выкананьне задач далейшага паляпшэньня сацыяльна-бытавых умоў рабочых і ІТР саўгасаў.

Выходзячы з вышэйпаказанага Прэзыдыум пастанаўляе:

1. За дапушчаныя апартуністычныя скажэньні дырэктыў, за парушэньне інструкцыі, скарачэньня тэрмінаў, а таксама за адсутнасьць масавай падрыхтоўчай работы—адмяніць праведзеныя перавыбары рабачкомаў у наступных саўгасах: Івань, Некрашы, Бранчыцы, Боркі-Бялевічы Старчыцы, Рачкавічы і Рыме. Інструктара Рэспубліканската камітэту тав. Карнейчык, пры ўдзеле якога былі праведзены перавыбары гэтых рабачкомаў, зьняць з работы інструктара. Даручыць агрсэктару тэрмінова камандыраваць другога інструктара Рэсп. кам. для правядзеньня паўторных перавыбараў названых рабачкомаў саўгасаў.

2. Катэгарычна забараніць усім рабачкома і брыгадзірам Рэспубліканскага камітэту пад якімі-б та ні было прадлогамі скарочваць устаноўленыя тэрміны справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Віноўныя у парушэньні інструкцыі альбо фармальнага правядзеньня гэтай работы будуць рашуча прыцягвацца да адказнасьці, а выбары касіравацца (адмяняцца), як за змазваньне палітычных задач, якія пастаўлены ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

3. Прэзыдыум абавязвае рабачкомы і брыгадзіраў Рэспубліканскага камітэту:

а) Безадкладна падняць усю работу справаздачна-перавыбарчай кампаніі на належную палітычную вышыню. Давесьці адозву УсеЦСПС да кожнага рабочага. Максымальна актывізаваць усіх рабочых, работніц і ІТР саўгасаў на выкананьне 6 умоў тав. Сталіна, на хутчэйшую рэалізацыю пастановы партыі і ўраду аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі, на рашучае паляпшэньне сацыяльна-бытавых умоў рабочых і ІТР, на перабудову прафработы, на выкананьне промфінпляну і падрыхтоўкі да чацьвёртага заключнага году пяцігодкі.

б) Перавесьці ўсю правадзімую работу на рэйкі сацспаборніцтва як унутры саўгасу, вучастка з вучасткам, цэха з цэхам, брыгады з брыгадай, так і саўгасу ў цэлым з другім саўгасам, мабілізуючы рабочых на поўнае выкананьне сацдагавору з заходня-абласным камітэтам і Вукам Украіны.

в) Уцягнуць максымальную колькасьць ударнікаў, рабочых, работніц і ІТР у самаправерачныя брыгады.

г) Перавесьці максымальную колькасьць рабочых на прагрэсыўна-зьдзельна-прэміяльную сыстэму аплаты працы, зьліквідаваць абязьлічку, ураўнілаўку, павялічыць рост ударнікаў, разгарнуць вышэйшыя формы сацспаборніцтва і асабліва арганізацыю гасразьліковых брыгад і зьменна-сустрэчнага плянаваньня.

д) Разгарнуць шырокую работу па росьце членаў саюзу, зьліквідаваць запазычанасьць па членскіх узносах, арганізаваць сетку гурткоў прафасьветы і гурткоў па аўладаньні тэхнікай.

е) Ахапіць на 100 проц. няпісьменных лікпунктамі. Максымальна разгарнуць падпіску на газеты і асабліва на газэту „Труд“, „Сельгасрабочы Беларусі“ і Маскоўскі „Сельско хозяйственный Рабочый“

ж) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на масавае разгортваньне саправаздачна-

перавыбарчай кампаніі студкомаў і мясцовых бюро ІТС і прыцягненьня ІТР да перавыбараў рабачкомаў саўгасаў.

4. Абвясьціць вымову старшыні рабачкомаў саўгасаў Насовічы і Уваравічы, якія спачатку кампаніі ні разу ня прыслалі Рэспуб. камітэту зводак аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Абавязаць усе рабачкомы саўгасаў, студкомаў і мясцовыя бюро ІТР забясьпечыць сваячасовую прысылку (5, 10, 15, 20, 25, і 30 чысла) зьвесткі па раней разасланых формах і праграмах.

5. Прапанаваць усім рэвізыйным камісіям безадкладна прыступіць да масавага абравізаваньня грашовага становішча рабачкомаў саўгасаў, і па справаздачы рабачкомаў абавязкова рабіць садаклады рэўкамісіі.

Акты рэўкамісіі тэрмінова дасланць Рэспубліканскаму камітэту.

## ПАСТАНОВА

### Прэзыдыуму Рэспубліканскага Камітэту Саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў.

*Ад 29/X-1931 г.*

1) Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу РЖС адзначае, што вызначаная прамфінплянам на 1931 г. жылбудаўніцтва **па саўгасах Сьвінаводу** знаходзіцца ў наступным становішчы:

а) Плян будаўніцтва баракаў—42 аб‘екты, ахоплена будаўніцтвам 26, скончана 26.

б) Плян будаўніцтва дамоў—132 аб‘екты, ахоплена будаўніцтвам 97, скончана 23, скончана звыш 50% 51 і менш 50%—13.

**Па саўгасах Белсаўгастрэсту:**

а) Плян будаўніцтва баракаў 24 аб‘екты, ахоплена будаўніцтвам 19, скончана 13, скончана звыш 50%-3 і менш 50%-3.

б) Плян будаўніцтва дамоў—46 аб‘ектаў, ахоплена 33, скончана 7, скончана звыш 50%-19, менш 50%-11.

Прэзыдыум Рэсп. К-ту лічыць такое выкананьне пляну жылбудаўніцтва яўна катастрафічным, ставячым пад пагрозу невыкананьне пляну. Аднačасова Прэзыдыум Рэсп. К-ту адзначае на ня зусім дастатковыя тэмпы ходу жылбудаўніцтва, утвараемага гаспадарчым парадкам.

2) Асноўнымі недахопамі, якія не забясьпечваюць бальшавіцкіх тэмпаў жылбудаўніцтва зьяўляюцца:

а) Асабліва дрэнная пастаноўка арганізацыі працы, недастатковы перавод будаўнічых работ на прэміяльна-прагрэсыўную аплату, апушчаная Белсельбудам інструкцыя аб увядзеньні прагрэсыўкі амаль усюды не прапрацавана.

б) Слаба разгорнута сацспаборніцтва і ахоп ударніцтвам і асабліва новымі вышэйшымі формамі сацспаборніцтва (гаспадарча-разьліковыя брыгады і зьменна-сустрэчнае плянаваньне), адсутнасьць адпаведнай работы ў справе прэміяваньня лепшых будаўнічых брыгад і асобных будаўнікоў.

в) Не здавальняюча пастаўлена работа па барацьбе за якасьць зьніжэньня сабекаштоўнасьці.

г) Недастаткова зварочваецца ўвага кіраўніцтва і рабачкомаў саўгасаў на сваечасовае забесьпячэньне лесаматар‘яламі.

д) Не праяўляецца дастаткова ініцыятыва па поўным скарыстаньні ўсіх мясцовых будаўнічых матар‘ялаў.

е) Незабясьпечанасьць рабочай сілай.

ж) Дрэнная пастаноўка ў забесьпячэньні будаўнікоў прадуктамі і прамтаварамі і адпаведным абслугоўваньнем грамадзкім харчаваньнем (саўгас Лемніца, бываюць выпадкі, калі ў сталовай адсутнічае па цэлым дню хлеб)

з) Недастатковае з боку рабачкомаў прафкультабслугоўваньне будаўнікоў

саўгасаў, адсутнасьць увязкі адміністрацыі і тэхнічнага пэрсаналу (прарабы, дзесятнікі), з рабачкомамі саўгасаў і г. д.

Выходзячы з адзначанага Прэзыдыум Рэсп. К-ту саюзу пастанаўляе

1) Непаслабляючы ўвагі на заканчэньне гаспадарчага будаўніцтва к вызначанаму тэрміну партыяй і ўрадам (15/XI-31 г.), неабходна пераключыцца на фарсіраваньне жылбудаўніцтва, для чаго асаблівую ўвагу зьвярнуць на фарсіраваньне наступных мерапрыёстваў:

а) У сувязі з заканчэньнем палявых работ, прапанаваць дырэктарам і рабачкомам саўгасаў безадкладна пераключыць усю цягавую сілу на вывозку лесаматар'ялаў і іншых будаўнічых матар'ялаў, арганізуючы чырвоныя суботнікі, асобыя ўдарныя брыгады па вывазцы і г, д,

б) Для пасьпяховага забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў жылбудаўніцтва, адміністрацыі саўгасаў, будвучасткаў і рабачкомам саўгасаў выключную увагу надаць пытаньням адпаведнай пастаноўкі арганізацыі працы, для чаго да 15/XI- г. г. прапрацаваць інструкцыю аб прагрэсыўнай аплаце, перавёўшы ўсе будаўнічыя працэсы на зьдэельную сыстэму.

в) Рабачкомам саўгасаў больш увагі надаць разгортваньню сацспаборніцтва вакол будаўніцтва і ахопу ўдарніцтвам, у гэтай рабоце цэнтральным месцам у сучасны момант павінна быць стварэньне гаспадарча-разьліковых брыгад і зьменна сустрэчнае плянаваньне, як новых вышэйшых форм сацспаборніцтва, для чаго трэстам, сумесна з Белсельбудам на працягу дэкады апусьціць тыповыя дагаворы гаспадарча - разьліковых брыгад.

г) Абавязаць Белсельбуд, трэсты, кіраўніцтва і рабачкомы саўгасаў на працягу бліжэйшага часу выпрацаваць канкрэтную праграму мерапрыемстваў, забясьпечваючых будаўніцтва круглы год.

д) Прэзыдыум зварочвае увагу Белсельбуду і трэстаў на тое, што першачарговая увага павінна быць зьвернута на заканчэньне распачатага будаўніцтва.

е) Для зьнішчэньня недахопаў і лепшай пастаноўкі работы па палепшаньні сацыяльна-бытовых умоў будаўнікоў, лічыць неабходным пасылку спэцыяльных брыгад, для чаго даручыць Сац. Быт. сэктару саюзу на працягу дэкады вызначыць маршрут брыгад. Адначасова Прэзыдыум лічыць мэтзгодным склікаць не да 1/XII г. г. у Менску Усебеларускага зьлёту з удзелам паасобных начальнікаў будвучасткаў, старшынь Райспа, дырэктараў, рабачкомаў саўгасаў і лепшых ударнікаў-будаўнікоў. Рабачкомам і дырэктарам саўгасаў ужыць усее захады на адпаведнае палепшаньне становішча будаўнікоў.

2) Улічаваючы, што застаўся невялікі час да 1932 г., абавязаць трэсты, кіраўніцтва і рабачкомы саўгасаў безадкладна пачаць падрыхтоўку да жылбудаўніцтва 1932 г. шляхам абгавараньня праектаў, падрыхтоўкі плянаў на месцы, нарыхтоўкі будаўнічых матар"ялаў, адначасова з гэтым Прэзыдыум даручае Сьвінаводу і Белсаўгастрэсту падрыхтаваць мерапрыемствы па будаўніцтву ў паасобных саўгасах цагельняў.

3) Рабачкомам саўгасаў утварыць каранны перalом у сваёй штодзённай рабоце на палепшаньне прафкультабслугованьня будаўнікоў (праз сыстэматычныя склікі вытворчых нарад, уцягненьня ў саюз, ахоп клюбамі, газэтамі-бібліатэкамі і г. д.).

4) Прэзыдыум асабліва падкрэслівае, што ў рабоце трэстаў, кіраўніцтва і рабачкомаў саўгасаў па фарсіраваньні жылбудаўніцтва павінны заняць цэнтральныя месцы пытаньні якасьці ўтвараемага будаўніцтва і зьніжэньня сабекаштоўнасьці.

5) Улічваючы катастрафічныя тэмпы жылбудаўніцтва, прасіць камісію Выкананьня пры СНК БССР у бліжайшы час заслухаць даклады гаспадарчых арганізацый аб ходзе жылбудаўніцтва ў жывёлагадоўчых саўгасах.

6) Даручыць Плянава-Вытварчаму сэктару сумесна з БСельбудам напісаць дырэкцыйны ліст начальнікам будвучасткаў і рабачкомам саўгасаў аб практычных мерапрыемствах, забясьпечваючых адпаведную арганізацыю працы сярод будаўнікоў.

## Усім старшыням рабачкомаў жывёлагадоўчых саўгасаў

Улічваючы велізарную важнасьць і значэньня антырэлігійнай вучобы для нашых саўгаскіх рабочых у справе набыцьця імі глыбокіх Марксыцка-Ленінскіх тэорый, на чым завастрыў вялікую увагу 16-ты Зьезд УсКП(б) і у сваіх пастановах УсЦСПС, Рэспубліканскі Камітэт Саюзу жывёлагадоўчых саўгасаў прапануе Вам зараз-жа прыступіць да вярбоўкі лепшых ударнікаў В/ саўгасу у лік студэнтаў слухачоў Усесаюзнага Антырэлігійнага Універсытэту па радыё.

Універсітэт мае чатыры адзеленьні: Масовае, Нацыёнальнае, прапагандысцкае і лектарска-педагагічнае. Лекцыі будуць чытацца лепшымі кваліфікаванымі сіламі Камакадэміі і Інстытуту Чэрвонай Прафэсуры. Асноўную увагу зьвярнеце на камплектаваньне Масава-нацыянальнага аддзяленьня на якое прымаюцца асобы умеючыя чытаць і пісаць. Курс лекцыі апошняга падзеляецца на 4 раздзелы: Сацбудаўніцтва і рэлігія. Марксызм Ленінізм і рэлігія, Матэрыялістычнае і рэлігійнае тлумачэньне і разуменьне гісторыі., прырода з Марксыцка Матэрыялістычнага і рэлігійнага пункту гледжаньня, Марксыцкае вучэньне аб узьнікнаваньні і разьвіці рэлігіі, Легенды аб хрысьце і г. д. і г. д' Перадачы будуць вытварацца праз радыё станцыю ім. Сталіна, (был. Ногінская, Масква) 5, 10, 15, 20, 25 і 30-га числа кожнага м-цу, ад 7 да 8 мі гадз. увечары.

Акромя таго, гэтыя лекцыі будуць перадавацца на беларускай, яўрэйскай і польскай мовах праз Беларускую радыё-станцыю ім. СНК БССР. Адкуль будуць давацца ўступные лекцыі, кансультацыя, (тлумачэньні) адказы слухачом па ўсім не зразумелым пытаньням і г. д.

Так сама, Беларускі Філіял Універсітэту будзе дармова пасылаць сваім слухачом падручнікі, друкаваные лекцыі, заданьні, выезджаць на мейсца для жывой кансультацыі і г. д. (Аб часе перадач Менскай Радыё-станцыі будзе паведамлена дадаткова.)

Перадачы Прапагандыстска-Педагагічнага аддзеленьня будуць ісьці выключна праз Маскоўскую Рэцыю

Скончыўшыя масава-нацыянальнае аддзеленьне атрымоўваюць права кіраўнікоў і арганізатараў антырэлігійных гурткоў і ячэяк, штатные пасады у саветах СВБ, так сама адукацыю на права паступленьня у сярэднія навучальные установы. (Тэрмін навучэньня 8 м-цаў)

З 15-го лістапада г. г. пачынаецца перадача лекцыі.

Вашаму саўгасу прадстаўлена 3 мейсцы і прапануем гэтую лічбу абавязкова перавыканаць. З агульнага ліку слухачоў 30% павінны складаць жанчыны. Вызваліць слухачоў у большай меры ад грамадзкай нагрузкі чым стварыць ім спрыяючыя ўмовы для занятак.

Анкеты (звычайные, можна рукопісам) павінны быць завераны рабачкомам і накіраваны па адрасу: г. Менск, Універсітэцкая 16, Белрадыёцэнтр, Антырэлігійнаму Філіялу.

Анкеты могуць падаваць і утрыманцы рабочых, пры чым не маладзей 16-ці год.

Пры неабходнасьці так сама можна зьвярнуцца у Райсаветы СВБ пры Райкампартах.

Напамінаем,—што ўся справа праводзіцца за пэрсанальнай адказнасьцю старшынь РК і павінна быць закончана не пазней 12-го лістапада.

Старшыня Беларускага Камітэту Саюзу
Жывёлагадоўчых саўгасаў. (Менжэлей)

Заг. Беларускім Філіялам Усесаюзнага
Антырэлігійнага У-ту па Радыё. (Контус)

Выдавецтва Бел. Рэсп. К-т Саюзу Рабочых Жывёлагадоўчых саўгасаў. Адказны рэдактар Краўчанка.



Галоўлітбел № 2794-2829. Заказ № 885—500 экз. Друк. Менской Фаб. Працоў. Калёніі.